# КРЫВІНКА

ВЕРАСЕНЬ
№14 (295)
2022 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ПРАБЛЕМЫ ДЛЯ РАВАРЫСТАЎ

**Той, хто ездзіць на роварах па Бешанковічах, ведае, як цяжка гэта рабіць. Адсутнасць не толькі веладарожак, але і нармальных ходнікаў з абодвух бакоў дарогі, высачэнныя бардзюры на кожным кроку, ямкі на ходніках – вось што сустракае той, хто мае ахвоту рухацца на двухколавіку.**



Факты такія. Шырокі ходнік па вуліцы імя Чарняхоўскага, які быў пабудаваны два гады таму, ужо пакрыты ямкамі. Праўда, тут можна зманеўраваць улева ці ўправа, бо шырыня ходніка больш 3-х метраў. Тут цалкам рэальна было б зрабіць разметку, аддзяліўшы ходнік для пешаходаў ад веладарожкі, як гэта зроблена там, дзе РЭАЛЬНА клапоцяцца пра бяспеку ўдзельнікаў дарожнага руху.

На новым ходніку па вуліцы імя Валадарскага, якому тры гады ад нараджэння, асабліва не зманеўруеш. Праўда, ім ніхто і не карыстаецца. І пешаходы, і раварысты едуць проста па праезджай частцы. Рух тут аднабаковы, месца хапае ўсім.

Але ж навошта было там рабіць такую пародыю на ходнік, які 80 см шырынёй? Нават пры добрым пакрыцці на ім не размінуцца два пешаходы. Але ж, згодна правілаў дарожнага руху, пры наяўнасці ходніка па ім павінны рухацца і пешаходы, і веласіпедысты. Няхай мо работнікі ДАІ пакажуць на семінары, як гэта рэальна можна зрабіць на гэтым ходніку.

Але што казаць пра нейкую вуліцу імя Валадарскага, калі на цэнтральнай плошчы Бешанковічаў з-за бардзюраў рух на роварах таксама нязручны. Нават калі каціць ровар у руках, не факт, што вы пераадолееце высачэзныя неахайныя бардзюры.

А вось якая сітуацыя па вуліцы імя Валадарскага каля дзіцячага садка: ні заезду на ходнік, ні з’езду з яго тут няма. І праектаваліся, і ажыццяўляліся тыя нязручнасці ўсяго год ці два таму назад. Наогул, уся вуліца імя Валадарскага – не для паездак на роварах. І веласіпедысты так і робяць – рухаюцца па праезджай частцы дарогі.

А на вуліцы імя Чарняхоўскага высокія бардзюры, каб праз іх было зручней заехаць на ходнік, дзе-нідзе проста падсыпалі пяском. Вышыня іх крыху панізілася, але зручнасці дадалося мала, бо пясок выносіцца коламі, і бардзюры зноў агаляюцца.

На той жа вуліцы імя Чарняхоўскага ў 2018 годзе (чатыры гады таму) пабудавалі не ходнік, а так званую "пешаходную дарожку". Яшчэ пад час яе будаўніцтва я звяртаў увагу раённыя службы на нізкую якасьць пакрыцьця. Тады кіраўнік бешанковіцкай ЖКГ Ігар Слівец з намесьнікам РВК па будаўніцтву Анатолем Журко у кампаніі з Сяргеем Равуцкім пахадзілі, паглядзелі і паабяцалі мне ўсё выправіць. І пасьпяхова «забыліся». Як «забыліся» зрабіць на тую дарожку заезд з боку «крамлёўкі». Нагадаю, прайшло ўжо роўна чатыры гады, як гэтую "дарожку" здалі ў эксплуатацыю. Тым, хто прагне ўсё ж заехаць на "дарожку", прыходзіцца штурмаваць не абы-якія ўзвышшы.

У дадатак на той дарожцы кінулі папярок бардзюры, каб на роварах асабліва не разганяліся.

Такая ж сітуацыя па вуліцы Свабоды, той, што вядзе на захад, у бок Бачэйкава. З-за карэньня дрэваў асфальт на ходніках тут узняты, і ехаць на роварах па ім адно мучэнне. А калі вы везяце на роварах нешта шкляное, то бой шклотары вам забяспечаны на 100%.

Такая сітуацыя з нашымі ходнікамі і дарожкамі магчымая толькі ў адным выпадку: нашыя чыноўнікі на роварах не езьдзяць. Яны не вылазяць з дзяржаўных аўтамабіляў. У адрозьненьне ад замежных. Там нават прэзідэнты часам садзяцца на ровары.

Прыкладам, Прэзідэнт Літвы Гітанас Науседа нядаўна прыехаў на працу на ровары. Ён сказаў, што Вільні ёсць яшчэ над чым папрацаваць.

Больш фота тут: *beshankovichi.by/bel/навіны/грамадства/9008*

**Г.Станкевіч**



КАР’ЕРА

## НОВАЯ ПАСАДА АНДРЭЯ БУЛАЎКІНА

**Андрэй Булаўкін, які два з паловай гады ўзначальваў бешанковіцкі РВК, зноў з’явіўся ў інфармацыйным полі. Як паведаміў telegram-канал «Віцебская вобласць», кіраўнік Віцебшчыны Аляксандр Субоцін узгадніў яго новае прызначэньне.**

Цытуем: «Узгоднена прызначэнне Андрэя Булаўкіна першым намеснікам старшыні Лёзненскага райвыканкама.»

Цікава, што ў той жа дзень закрылі вакансію першага намесніка старшыні Бешанковіцкага РВК, але, зразумела, Булаўкіна на яе не накіравалі.

8-га жніўня 2017 года Андрэй Булаўкін быў прызначаны старшынём Бешанковіцкага райвыканкама.

28-га лютага 2020 года Андрэй Булаўкін правёў апошняе пасяджэнне Бешанковіцкага раённага выканаўчага камітэта, дзе яму ўручылі букет кветак і ганаровую грамату.

Рашэннем аблвыканкама ён быў пераведзены на новае месца працы, яму было прапанавана ўзначаліць Аршанскае аграпрамысловае аб’яднанне.

Але ўжо ў верасні 2020 года з’явілася інфармацыя, што Андрэй Булаўкін на гэтай пасадзе больш не працуе. Інфармацыі, куды яго ўладкавалі, у Сеціве не было.

Аказалася, што апошняй пасадай Булаўкіна была пасада намесніка генеральнага дырэктара па сельскай гаспадарцы ААТ «Віцебскі мясакамбінат», адкуль яго і перавялі на пасаду першага намесніка старшыні Лёзненскага райвыканкама.

Вось так – з месца на месца ўсё жыццё – і складаецца кар’ера.

**А.Тутэйшы**

ЦЭНТР УВАГІ

## ВОДНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

**Вадаправодную ваду ў Бешанковічах зноў нельга ўжываць.**

Пагаршэнне якасьці вады тлумачыцца тым, што "ў сувязі з перабоямі электраэнергіі, выклiканымі ўмовамі надвор'я, адбылося адключэнне станцыі абезжалезвання па вуліцы Паўднёвая".

Цяпер вонкавыя сеткі водазабеспячэння прамываюць.

Вадаправодную ваду рэкамендавана не ўжываць да заканчэння прафілактычных прамывальных работ і апублікавання вынікаў лабараторных даследа-ванняў.

Філіял «Лепельводаканал» УП «Віцебскаблводаканал» прыносіць прабачэнні за прычыненыя нязручнасці.

Але людзям тыя прабачэнні не асабліва патрэбныя. Патрэбная добрая вада.

**А Тутэйшы**

## *ЗОРКА БЕЛАРУСЬ*

*Зьнічкі вогненны сьлед*
*праз імгненьне адно патухае*
*і ў дзяцінства вяртае мяне*
*праз гады зноў і зноў:*
*я за зьнічкай бягу,*
*ейны сьлед ў росных травах шукаю,*
*а яна ўсё хаваецца*
*ў коўдрах густых туманоў.*

*Паўстагодзьдзя сплыло,*
*быццам цёплае лета на ўзмор’і,*
*зорны дождж прылятае*
*у сад мой радзей і радзей.*
*Без ягоных шчадрот*
*на зямлі б пустацьветнай памёр я,*
*каб са зьнічкай сустрэцца сваёй*
*бракавала надзей.*

*...Уздыхае ральля,*
*дзе спадзеваў заораны шэраг,*
*калі пасмачка неба на ўсходзе*
*пачне ружавець.*
*Тут усьмешка жыве*
*у вачах тваіх стомлена-шэрых,*
*тут у кожным кутку*
*Беларусь – мая песьня жыве.*

*Не змагу я памерці,*
*пакуль Ты ляціш у Сусьвеце,*
*цераз морак расстрэльных начэй,*
*праз вякі забыцьця.*
*Праз пякельную цемру*
*Ты сонцам усьмешлівым сьвеціш,*
*і надзею даеш,*
*і жыцьцю даеш вечны працяг.*

*Зьнічкі вогненны сьлед*
*праз імгненьне адно патухае.*
*Яна падае дзесь за ракой*
*у высокай траве.*
*Абуджаецца дзень*
*над прасторамі роднага краю.*
*Пакуль зьнічкі ляцяць –*
*Беларусь, мая зорка, жыве!*

**Г.Станкевіч**
*з кнігі “Тунэль да сэрца Эўропы”*

17-ГА ВЕРАСНЯ

# ПРА ФАЛЬШЫВЫ "ДЗЕНЬ АДЗІНСТВА"

**Нападкі на Польшчу, якую Лукашэнка ў прынцыпе не паважае, на гэты раз былі матываваныя яшчэ і спецыфічнай прыдуманага ўладамі летась свята.**

Дзень народнага адзінства прымеркаваны да вельмі неадназначнай падзеі – пачатку наступу Чырвонай арміі ў 1939 годзе на тэрыторыю тагачаснай Польшчы, што з'явілася следствам таемных дамоўленасцей паміж сталінскім СССР і гітлераўскай Германіяй. Так, у выніку БССР прырасла землямі, але тое, што прапаганда назвала вызваленнем ад польскай няволі, абярнулася для жыхароў Заходняй Беларусі трапленнем у таталітарную імперыю, новай несвабодай і масавымі рэпрэсіямі. А чалавецтва было ўведзена ў Другую сусветную вайну.

Лукашэнка, аднак, абышоў слізкую тэму пакта Молатава – Рыбентропа, спецыфічных узаемаадносін двух таталітарных рэжымаў, якія спрабавалі па паняццях падзяліць паміж сабой Еўропу. Ён звёў усё гэта да фразы, што "міжваенная Польшча сама прывяла сябе да краху". Мы ў чарговы раз убачылі, як кіраўнік Беларусі падгінае гісторыю пад кан'юнктурныя інтарэсы свайго рэжыму.

**Варшава дрэнная, а вось Крэмль - белы і пухнаты**

Каб апраўдаць новае свята, Лукашэнка, з аднаго боку, абрынуўся на Польшчу, адлюстроўваючы яе вечным ворагам, які нібыта не пакідае рэваншысцкіх задум і сёння. У тым жа ключы адлюстраваў ён і ўвесь Захад. З іншага боку, кіраўнік паспрабаваў ідэалізаваць Расею. Паводле яго слоў, "у саюзе з усходнеславянскімі суседзямі беларускія землі развіваліся (і Кіеўская Русь, і Расійская імперыя, і СССР), а ў абдымках Захаду (не аднойчы мы знаходзіліся там) – мы гінулі. Нас рабавалі, знішчалі як этнас і ў эпоху Рэчы Паспалітай, і ў перыяд 20-гадовага польскага парадку на нашых заходніх землях".

Так, у міжваенныя гады палітыка Варшавы на беларускіх землях была зусім не аксамітнай. Але, прынамсі, там не было прымусовай калектывізацыі. У той самы час сталінскі рэжым чыніў куды больш масавыя і бязлітасныя расправы над нацыянальнай інтэлігенцыяй, ды і над шараговымі беларусамі таксама. Лукашэнка ж у сваім выступе прыгадаў польскі канцлагер у Бярозе-Картузскай, але не ўспомніў пра Курапаты і ГУЛАГ.

Заўважце і такую маніпуляцыю: знаходжанне ў складзе Расійскай імперыі падаецца як "саюз з усходнеславянскімі суседзямі", хаця насамрэч гэта быў не саюз, а захоп, беларусы там не мелі ніякай аўтаноміі, падвяргаліся ўзмоцненай русіфікацыі. Ды і ў Савецкім Саюзе БССР валодала толькі бутафорскімі прыкметамі самастойнасці.

**Чый вайсковы чаравік топча беларускую зямлю?**

Але гісторыя гісторыяй, а давайце прааналізуем рэаліі сённяшняга дня. Насуперак страшылкам Лукашэнкі і яго прапаганды, беларускую зямлю топча сёння не НАТА, а чаравік расійскага салдата. Менавіта Масква дэ-факта пазбавіла Беларусь як мінімум ваеннага суверэнітэту, выкарыстоўвала яе тэрыторыю як плацдарм для нападу на Украіну.

Але сказаць нешта супраць Крамля Лукашэнка не можа. Таму ён так крыва і аднабока трактуе гісторыю і тым больш крыва - цяперашнюю палітычную сітуацыю, прычыны крывавай заварухі. Гэта, маўляў, "ЗША штурхаюць Еўропу ў ваеннае супрацьстаянне з Расіяй на тэрыторыі Украіны (вылучана мной. – А.К.)". Гэтая прапагандысцкая тэза выглядае вельмі нязграбна хаця б таму, што з яе выцякае лагічная выснова: калі б Масква не ўлезла на тэрыторыю Украіны, то ніякага ваеннага супрацьстаяння не было б у прынцыпе.

Насамрэч Лукашэнку страшна няўтульна ў сітуацыі, калі Крэмль узяў за жабры, а на Захадзе многія сталі лічыць знешнепалітычную суб'ектнасць беларускага правадыра блізкай да нулявой. Лукашэнка спрабуе манеўраваць, знайсці супрацьвагі магутнаму ціску Масквы, але пры гэтым ускладае надзеі не на Захад, прымірэнне з якім амаль нерэальна, а перш за ўсё на Кітай і ў нейкай ступені – на Турцыю. Што праілюстраваў удзел кіраўніка Беларусі ў саміце Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва, у якую Мінск узмоцнена імкнецца. Але Пекін не раскідваецца шчадротамі і наўрад ці абароніць суверэнітэт Беларусі, калі Уладзімір Пуцін надумае банальна далучыць яе да Расіі.

**Масква і Менск спадзяюцца "нахіліць" Еўропу гібрыднымі метадамі**

Зрэшты, ніякіх гарантый у гэтым плане не здольны даць Мінску і Захад, які, паклаўшы руку на сэрца, і Украіну не вельмі абараніў. Відавочна, што заходнія санкцыі даволі моцна цісніць на беларускую эканоміку. Кампенсаваць страты ад страты экспарту ў ЕС і Украіну вельмі праблематычна. Лукашэнка ў мінулым месяцы заўважыў, што ў плане гандлю "нам ні ў якім разе нельга сыходзіць з Еўразвяза". Але заўважце, у якім кантэксце гэта прагучала: "Шаленства [еўрапейскіх] палітыкаў ужо ідзе на задні план. Бізнес ёсць бізнес". Гэта значыць Крэмль і Мінск спадзяюцца, што слабавольныя, на іх думку, палітыкі краін ЕС, якія залежаць ад электарату, спалохаюцца высокай інфляцыі, энергетычнага крызісу, халоднай зімы (адсюль – сюжэт з колкай дроў) і дадуць задні ход. Карацей – што Еўропу атрымаецца, кажучы мовай Лукашэнкі, нахіліць.

Адсюль – разлік на метады гібрыднай вайны: ад закручвання газавага вентыля да праваквання новай хвалі міграцыйнага крызісу (сімптомы чаго ўжо назіраюцца).

**Рэжым не мае намеру даравацъ палітычным праціўнікам, нацыя дэ-факта расколатая**

Паказальна, што ў прамове 17-га верасня Лукашэнка не абмовіўся ні словам пра абяцаную да Дня народнага адзінства амністыю, у тым ліку і для палітвязняў.

Затое прагучалі крыўды на тую ж Польшчу, якая аказалася нядзячнай і на вызваленне ад гітлераўцаў падчас Другой сусветнай адказвае "картамі паляка, фейкамі "Белсата", праграмамі Каліноўскага, палітэміграцкімі цэнтрамі, байпаламі, байсоламі і іншымі ідэалагічнымі дыверсіямі".

Вынесем за дужкі тое, што зусім не "прыгажуны" Лукашэнкі, як любоўна называе ён сваіх сілавікоў, ваявалі за вызваленне Польшчы. Не будзем удаваць ў прычыны таго, чаму Сталін прытармазіў свае войскі перад Варшавай, калі там сплывала крывёю паўстанне.

У гэтым пасажы ў прынцыпе ўсё змяшана ў кучу, але відавочна прарвалася нянавісць да палітычных супернікаў, якія апынуліся ў змушанай палітычнай эміграцыі. Лукашэнка не мае намеру іх даравацъ. Як і тых сваіх знакамітых ворагаў, якіх схаваў за краты на дзікія тэрміны.

Так што амністыя ў стаўленні палітычных напэўна будзе скупой. Тармажэнне з ёй, відаць, выклікана якраз жаданнем не перабраць.

Пра перспектыву аднасінаў Лукашэнкі з Захадам можна сказаць прымаўкай: рады б у рай, ды грахі не пускаюць.

Ён, вядома, з задавальненнем вярнуўся б да геапалітычнага манеўравання, якое мела месца яшчэ два з паловай гады таму (дастаткова ўзгадаць прылёт у Мінск дзяржсакратара ЗША Майкла Пампеа ў лютым 2020 года і танкеры з амерыканскай нафтай на фоне канфлікту з Расіяй).

Але жаданне любой цаной захаваць уладу ва ўмовах мірнага паўстання 2020 года прывяло да амаль непераадольнай залежнасці ад Крамля. А ўнутры Беларусі страчана ранейшая электаральная база, вялікая колькасць затоеных прыхільнікаў змены рэжыму (насуперак фальшывым фразам аб адзінстве нацыі).

Таму адкручваць гайкі (у тым ліку масавым вызваленнем палітвязняў) боязна. Можна, вядома, карцінна насекчы дроў для Еўропы перад тэлекамерай. Але пры гэтым беларускі кіраўнік за апошнія два гады наламаў занадта шмат дроў ва ўнутранай і знешняй палітыцы, каб зараз расчысціць гэтыя завалы.

**Аляксандр Класкоўскі, палітычны аналітык**

**Позірк**

СПАДЧЫНА

# "БЕЛЫ КОВЕЛЬ" – НАЙБЛІЖЭЙШЫ ДА НАС ЗАМАК

**У пачатку XVII стагоддзя князь Сямён Сангушка-Ковельскі абраў для сваёй рэзідэнцыі правы бераг ракі Дзернаўкі на ўскраіне Смалянаў, якія ўваходзілі ў яго ўладанні, і недалёка ад Оршы і Віцебска, дзе ён займаў дзяржаўныя пасады.**

Будаўніцтва рэзідэнцыі даверылі галандскаму архітэктару, які, прытрымліваючыся архітэктурных канонаў эпохі Рэнесансу, узвёў у балоцістай нізіне вялікіх памераў палац. Сцены замка памерамі 100 на 200 метраў былі выкладзены з каменя і цэглы, а затым старанна пафарбаваныя ў белы колер. Адзіны на беларускіх землях белы замак назвалі «Белым Ковелем», увекавечыўшы тым самым найменне заснаванага Сангушкамі горада на Валыні.

Упрыгожаны фрэскамі раскошны палац заслужана граў ролю культурнага цэнтра Усходняй Беларусі, прымаў знакамітых вандроўнікаў па шляху з Заходняй Еўропы ў Маскву. Значным у лёсе замка стала XIX стагоддзе: у яго пачатку «Белы Ковель» разбіралі на цэглу, а ў другой палове правялі кансервацыю адзінай ацалелай вежы. Руіны Смалянскага замка – фрагменты падмурка і пяціярусная вежа – узвышаюцца над зямлёй як сімвал былой велічы і нават у такім статусе здольныя прыцягнуць турыстаў і фатографаў.

**"Будзьма"**

ХАРЧАВАННЕ

# ЧАКАЕЦЦА НЕДАХОП КАВЫ

**Каб даведацца, наколькі ў свеце не хапае паставак кавы, улічыце наступнае: запасы ў Бразіліі, найбуйнейшым вытворцам у свеце, скарачаюцца да рэкордна нізкага ўзроўню.**

Па словах Сайласа Бразілейра, прэзідэнта Нацыянальнага савета па каве, да сакавіка запасы ў паўднёваамерыканскай краіне могуць знізіцца да 7 мільёнаў мяхоў. Больш камфортны ўзровень – ад 9 да 12 мільёнаў мяхоў вагой 60 кілаграмаў, лічаць аналітыкі.

Праблемы з пастаўкамі ў Бразіліі паўтараюць глабальны дэфіцыт, пагражаючы падштурхнуць цэны да росту на фоне пастаяннай інфляцыі прадуктаў харчавання.

У той жа час сусветны попыт працягвае расці: па дадзеных даследчай кампаніі hEDGEpoint Global Markets, спажыванне ў гэтым сезоне вырасла на 1,5% пасля росту на 2% у мінулым годзе.

Запасы "настолькі нізкія, што нават калі ў нас будзе добры ўраджай у наступным годзе, у Бразіліі можа ледзь хапіць, каб задаволіць попыт", – сказаў Нэльсан Карвальяс, член праўлення экспарцёрскай групы Cecafe.

**Bloomberg**

РЭХА ВАЙНЫ

# ПАХАВАННЕ ПРАЗ 79 ГАДОЎ

**14-га верасьня 2022 года ў Бешанковічах прайшла ўрачыстая цырымонія пахавання парэшткаў ураджэнца раёна малодшага лейтэнанта Сцяпана Кавалёнка, які загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны непадалёк ад расейскага горада Геленджыка.**

Сцяпан Сямёнавіч Кавалёнак, 1917 года нараджэння, ураджэнец вёскі Крывое Сяло Біклажанскага (цяпер Верхнякрывінскага) сельсавета Бешанковіцкага раёна. Там жа ў яго пражывала маці – Стэфаніда Парфёнаўна Кавалёнак.

У 1935 годзе ён скончыў няпоўную сярэднюю школу (7 класаў). У снежні 1938 года паступіў у Адэскую ваенную авіяцыйную школу ім. П. Асіпенкі, якую скончыў у 1940 г. на пасадзе пілота знішчальніка І-16.

23-га лютага 1939 года прыняў воінскую прысягу. Паводле ўдакладненых звестак, ён удзельнічаў у паветраным баі 12-га лютага 1943 года, пасля якога не вярнуўся на аэрадром.

За свае баявыя заслугі быў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. Двое родных братоў лётчыка таксама загінулі на фронце. Урачыстая цырымонія пахавання астанкаў прайшла ў гарадскім пасёлку на брацкай магіле №4043.

Месца гібелі абаронцы Айчыны было знойдзена летась. Асацыяцыя пошукавых атрадаў «Кубаньпошук» падчас чарговых раскопак у наваколлях пасёлка Кабардзінка знайшла абломкі савецкага знішчальніка І-16 і парэшткі пілота. Па нумарных дэталях самалёта, архіўных дакументах удалося высветліць, што баявая машына належала 116-му знішчальнаму палку 295-й знішчальнай авіядывізіі 5-й паветранай арміі, а парэшткі – малодшаму лейтэнанту Кавалёнку С.С.

**ВітВесці**

ГІСТАРЫЧНАЯ ПАМЯЦЬ

# «ПРАПАГАНДА „РУССКОГО МИРА“». ШТО НЕ ТАК З ГІСТАРЫЧНЫМІ РОЛІКАМІ

**Нядаўна мінскія ўлады адказалі на петыцыю, у якой беларусы прасілі патлумачыць, чаму ў транспарце круцяць ролікі са скажонымі гістарычнымі фактамі. Чыноўнікі паабяцалі прыслухацца. Аднак відэа дагэтуль паказваюць у сталічных аўтобусах і метро. CityDog.io даведаўся ад гісторыка пра памылкі, якія прысутнічаюць у некаторых з іх.**




**Што гэта за ролікі?**

Серыя відэа, якія зараз круцяць у мінскім транспарце, называецца «Беларусь. История». Стварылі яе па замове Мінгарвыканкама «ў мэтах выканання рэспубліканскага плана мерапрыемстваў па правядзенні ў 2022 годзе Года гістарычнай памяці (...) з мэтай павышэння эфектыўнасці грамадзянска-патрыятычнага выхавання насельніцтва».

Зрабілі і пачалі публікаваць відэа летась, але да нядаўняга часу глядзець іх можна было толькі на YouTube-канале. Сёлета ж у ліпені ролікі пачалі трансляваць у мінскім метро, у аўтобусах і тралейбусах. Пускаць серыю пачалі таксама па рашэнні Мінгарвыканкама.

**Чаму беларусы рабілі петыцыю супраць ролікаў?**

Аўтары петыцыі прааналізавалі некалькі відэаролікаў і знайшлі ў іх фактаЛагічныя недакладнасці.

Напрыклад, у відэаролiку «Брестская уния» расказваецца, што ў кастрычніку 1596 г. у Берасці адбыўся Сабор, «который объявил о присоединении православных к католической церкви». Хаця насамрэч Берасцейская унія падтрымлівала ідэю аб'яднання абедзвюх цэркваў у межах ВКЛ, а не падпарадкаванне адной царквы іншай, як гэта паказана ў відэа.

Стваральнікі петыцыі прасілі патлумачыць, хто рабіў гэтыя відэаролікі, і прасілі праверыць відэа на наяўнасць памылак. У выпадку іх выяўлення аўтары патрабавалі перастаць паказваць іх у грамадскім транспарце.

**Гісторык: «Гэта не асветніцтва, а свядомая прапаганда „русского мира“»**

Ролікі з серыі «Беларусь. История» вельмі кароткія, максімум па паўтары хвіліны. Па словах кандыдата гістарычных навук Аляксандра Пашкевіча, зразумела, што ад прадукту ў такім лаканічным фармаце цяжка вымагаць вычарпальнага ахопу тэматыкі.

Пашкевіч лічыць, што ў гэтых роліках складана знайсці яўную хлусню, калі разглядаць іх з пункту гледжання фактаЛагічнай адпаведнасці. Стваральнікі дзейнічаюць больш тонка. Іх метад — не такая грубая фальсіфікацыя. Яны падбіраюць нават праўдзівыя факты, а потым складаюць іх у пэўны ідэйны ланцужок.

Калі разглядаць ролікі агулам, то можна ўбачыць, што аўтары трымаліся пэўнага прынцыпу: прысвячаць іх выключна тым тэмам і асобам, якія звязаныя з гістарычнымі пазітыўнымі сувязямі Беларусі і Расіі. Пра іншых суседзяў, з якімі ў беларусаў былі супольныя Вялікае Княства Літоўскае і Рэч Паспалітая, — альбо ніяк, альбо толькі кепска.

Напрыклад, уся віна за падзел Беларусі пасля Першай сусветнай вайны ўскладаецца выключна на польскі бок, хоць падпісантаў дамовы ў Рызе, паводле якой нашу краіну падзялілі, было двое: Польшча і Савецкая Расія.

Польская палітыка ў 1920-30-х у дачыненні да беларускай меншасці малюецца ў адназначна чорных танах. Параўнання з рэаліямі СССР 1930-х, калі ў БССР ішлі масавыя рэпрэсіі, аўтары роліка проста не робяць.

Пра сталінскія рэпрэсіі ці калектывізацыю ролікаў у гэтай серыі ўвогуле няма інфармацыі, затое пры расповедзе пра «жахі» жыцця пад Польшчай у ілюстрацыйным шэрагу з'яўляецца, напрыклад, палаючая вёска — і гэта яўная маніпуляцыя.

— Мэта стварэння ролікаў выступае настолькі яскрава, што не падлягае сумненню. Гэта не асветніцтва, а свядомая прапаганда «русского мира».

**«Афанасий Брестский. Мученик за Веру»: грубыя асацыяцыі з карнікамі ў Другой сусветнай вайне**

Ролік расказвае пра жыццё Афанасія Філіповіча. Яго ў відэа называюць Афанасіям Брэсцкім. Гэты чалавек увайшоў у беларускую гісторыю як прынцыповы праціўнік Берасцейскай царкоўнай уніі ды абаронца праваслаўя. Сюжэт круціцца выключна вакол гэтага.

Паралельна аўтары расказваюць, як у 1648 годзе ва Украіне пачался паўстанне пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага, а «польско-литовские власти начали жесточайший террор против православного населения». І гэты «террор» разам з палаючай вёскай, якую паказваюць на фоне відэа, выклікае яўную асацыяцыю з часамі Другой сусветнай вайны — гэта грубая маніпуляцыя гістарычнымі фактамі.

Багдан Хмяльніцкі насамрэч выступаў супраць улады Рэчы Паспалітай. Аднак акрамя «защиты православной веры», як узгадваецца ў відэаролiку, было яшчэ некалькі прычын паўстання: рост падаткаў і павіннасцей, а таксама прыгнёт сялян. У відэа пра гэта не згадваецца ні слова.

Гучыць у роліку і моцнае «каратели» — зноў негатыўная канатацыя з Другой сусветнай вайной. Для большага эфекту спосабам пакарання смерцю Афанасія адназначна называецца закопванне яго жывым у зямлю, але ў гістарычных крыніцах наконт смерці рэлігійнага дзеяча ёсць розныя меркаванні.

Такім чынам, асноўныя факты былі захаваны, але не ва ўсім аб'ёме.

**«17 сентября — День Воссоединения»: не згадваюцца важныя гістарычныя факты**

Гэта відэа расказвае пра падзеі 17 верасня 1939 года. У роліку яны паказаны як «освободительный поход» Чырвонай арміі на «оккупированные земли». Дазволіў гэта зрабіць, паводле аўтараў роліка, «военный крах» Польшчы.

Сапраўды, 17 верасня 1939 года адбылася ваенная аперацыя Чырвонай Арміі па ўстанаўленні кантролю над усходнімі тэрыторыямі Польшчы: Заходняй Беларуссю і Заходняй Украінай.

Пры гэтым наяўнасць заключанай 23 жніўня 1939 года тайнай дамовы паміж СССР і нацысцкай Германіяй, паводле якой і падзялілі Усходнюю Еўропу паміж Сталіным і Гітлерам, не згадваецца ні слова.

Рэзюмэ: «Няма ніводнага сюжэта пра праблемы між народамі» Як падкрэслівае Аляксандр Пашкевіч, важна памятаць: продкі сучасных беларусаў і рускіх цягам цэлых стагоддзяў жылі ў розных дзяржавах. Паміж сабой яны і сябравалі, і варагавалі. Гэтага не могуць ігнараваць нават прапагандысты — але ў дадзеным выпадку няма ніводнага сюжэту пра праблемныя стасункі між народамі.

Але факт і тое, што ў тыя часы пэўная духоўная сувязь земляў былой Русі паміж сабой утрымлівалася праз праваслаўную веру. У ёй была значная частка насельніцтва. Менавіта на гэты аспект стваральнікі «русскомирских» ролікаў найперш і стараюцца ціснуць.

Пашкевіч зазначае: асноўныя факты згадваюцца ў роліках правільна, але маніпуляцыі праяўляюцца большай часткай праз візуальны шэраг і праз адвольныя інтэрпрэтацыі гістарычных фактаў і нюансаў. А гэта ўжо класічная прапаганда.

**І што паглядзець, каб паглядзець на гісторыю з беларусацэнтрычнага погляду?**

Абавязкова звярніце ўвагу на падкаст «Так склалася гістарычна». У ім навуковыя дзеячы простай мовай расказваюць пра складаныя гістарычныя падзеі.

На YouTube можна паглядзець ролікі пад хэштэгам #гісторыяза5хвілін. За кароткі час гісторык раскажае пра пэўныя падзеі. У фармаце вялізных лекцый ёсць серыя відэа «Кава з гісторыкам»: гэта YouTube-версіі офлайн-сустрэч, якія арганізуе Беларускі Моладзевы Хаб.

Яшчэ адзін цікавы канал — Слухай сюды. Лекцыя ідзе разам з візуальнымі матэрыяламі, таму глядзець і карысна, і цікава адначасова.

**budzma.org**

БЕЛАРУСЬ – КІТАЙ

# ЗРЯ РАДУЮТСЯ КРАСИВЫМ ФОРМУЛИРОВКАМ ОБ ОТНОШЕНИЯХ С КИТАЕМ

**Пропаганда утверждает, что отношения Беларуси и Китая «выходят на новый уровень». Объясняем, почему это не так.**

После участия Александра Лукашенко в саммите ШОС, где правителя наконец вынудили надеть маску, приближенный к нему телеграм-канал разразился пафосным сообщением:

— По-прежнему железные братья, но теперь еще круче! Как и договорились на полях саммита ШОС Первый и Си Цзиньпин — двусторонние отношения Беларуси и Китая выходят на новый уровень! МИД КНР сообщает: страны официально установили «всепогодное всеобъемлющее стратегическое партнерство».

Что значит эта формулировка!? А то, что дружба между Китаем и Беларусью стабильна и неизменна вне зависимости от того, как меняется международная обстановка.

А первый вице-премьер Николай Снопков сказал: «Принятая в Самарканде декларация — это высший уровень сотрудничества между двумя странами — Китай и Беларусь».

**Почему эти заявления не соответствуют реальности?**

Во-первых, уже выглядит странным то, что пропагандисты и чиновники видят в подписании декларации с красивыми словами «выход на новый уровень отношений», тогда как на практике совместные проекты, реализуемые в Беларуси, страшно буксуют.

Согласно ресурсу Trading Economics среди импортеров в Китай в 2021 году Беларусь с $1,1 млрд (Белстат оценивает экспорт в Китай в $1,3 млрд, но включает туда Гонконг, Макао и Тайвань) расположилась аж на 83 месте. То есть наша страна значительно уступает по экспорту в КНР таким государствам как Польша, Венгрия, Узбекистан, Казахстан, Украина, Болгария, Словакия и Чехия.

Во-вторых, давайте проверим, действительно ли формулировка «всепогодное сотрудничество» означает на деле высокий уровень сотрудничества. Ранее газета The People's Daily проследила использование китайским властями термина «всепогодный друг»: по крайней мере, на тот момент считалось, что в основе этих отношений лежит признание территориальной целостности Китая, то есть, например, непризнание Тайваня.

Так вот, под статус «всепогодный друг» с 2002-го по 2015 год попал целый ряд стран, включая Сербию, Танзанию и Зимбабве.

Как сказался на отношениях этих стран с Китаем статус с красивой формулировкой? Похоже, в некоторых случаях никак. Так в 2020 году товарооборот между КНР и Зимбабве составил всего $1,4 млрд — в разы меньше, чем товарооборот Китая и Беларуси, которую до недавнего момента «всепогодным другом» не называли.

После 2015 года аналогичным статусом КНР наградила еще несколько стран. Например, Бурунди — слаборазвитое аграрное государство в Восточной Африке, одну из самых бедных стран в мире.

«Всепогодным другом» Китая является также Шри-Ланка.

***(працяг на стар. №4)***

БЕЛАРУСЬ – КІТАЙ

*(пачатак на стар. №3)*

Правда, там сильно обиделись на своих партнеров. «Пекин, который в хорошие времена предоставил Шри-Ланке огромные кредиты на инфраструктуру, теперь выделяется своим отсутствием, когда остров находится в кризисе», — пишут СМИ.

В хитрости и даже коварстве Китай подозревают и в других странах. Financial Times писала несколько лет назад:

— Руководители Пакистана описали свои отношения с Китаем как «железные братья» со связями, которые «выше Гималаев, глубже, чем самый глубокий океан и слаще меда». Но эта гиперболическая риторика маскирует тот факт, что Пакистан сейчас фактически является клиентским государством Китая. Многие внутри Пакистана открыто опасаются, что его зависимость от Пекина уже превращает его в колонию своего огромного соседа.

...Отрицательное сальдо для Пакистана в торговле с Китаем за прошлый год — минус около $20 млрд. Отрицательно сальдо Беларуси составляет пока минус $3,2 млрд.

Но вряд ли стоит радоваться красивым словам о новом уровне отношений двух стран. Пока это похоже на старый принцип белорусских властей в отношениях с Россией под названием «нефть в обмен на поцелуи».

**Дмитрий Косач**
**gazetaby.info**

МАБІЛІЗАЦЫЯ

# ЯРКАЯ ДЕМОНСТРАЦИЯ РУССКОГО ФАТАЛИЗМА

**Журналист Виталий Цыганков — о российской мобилизации и фатализме.**

— Смотрю на эти ужасные, мрачные кадры российской мобилизации, веселенькое пьяное отправление на убой, — пишет Цыганков в своем ТГ-канале. — Смотрю опросы на улицах, дискуссии в соцсетях.

Впечатляет, насколько это яркая и жестокая демонстрация многократно описанного русского фатализма и пренебрежения к самой жизни. Полное смирение с тем, что всё происходит независимо от твоей воли и желания. «Как Бог даст», «А что я могу», «Мы люди маленькие, за нас всё решили сверху», «Если родина приказала...».

Авось. «Авось пронесет, не убьют». И «великая русская литература», в её школьном варианте, приложила тут свою руку. Начиная от лермонтовского Печорина, почти весь 19 век фаталисты и «лишние люди» были главными героями в русской литературе.

Ну и коллективизм в его традиционной форме «быть как все». Добровольно ж никто не пошёл на войну, — ну а если все идут, то — «на миру и смерть красна». Только вдуматься — «красна». Красива, желанна.

Ну и если по законам жанра в этом месте кто-то спросит «а что у нас?» — так у нас, белорусов, все совершенно по-другому. Никакой загадочной души, никакой широты, которую надо бы «сузить». У белорусов полностью отсутствует мессианское сознание, чувство морального или идейного превосходства над другими людьми и нациями, желание учить их, навязывать им свои ценности.

Наша пресловутая чистота на улицах, хорошие дороги, аккуратные поля, огороды и цветники на дачах — все это направленность «в себя любимого», а не «в мир».

У них — «я хату покинул, пошел воевать, чтоб землю в Гренаде крестьянам отдать». У нас — «купіць зямлю, прыдбаць свой кут».

**"Салідарнасць"**
**gazetaby.info**

«ИНОАГЕНТ»

# ЛУЧШЕЕ ВЫСТУПЛЕНИЕ АЛЛЫ БОРИСОВНЫ

**После новости о признании властями российского артиста Максима Галкина иноагентом его супруга певица Алла Пугачева сама попросила Минюст признать ее иноагентом.**

Новость тут же разлетелась по СМИ. «Королева советской поп-музыки осудила путинскую войну в Украине» — с таким заголовком вышла статься в Reuters. И подобные материалы сейчас можно встретить во многих западных изданиях. Некоторые справедливо заметили, что Алла Пугачева переживает момент славы на Западе.

«Салідарнасць» собрала первую реакцию на поступок примадонны российской эстрады.

**Александр Фридман, политолог:**

— Любопытно: Алла Пугачева попросила признать ее «иноагентом» и осудила войну. Это достойный поступок, которым она перечеркивает себе будущее в путинской России.

**Телеграм-канал Город Глуповъ:**

— Лучшее выступление Аллы Пугачевой. Браво!

**Максим Мирович, блогер:**

Ну, пассаж про «наших ребят» я бы опустил, но в целом Алла Борисовна права. И да, она обязательно переживёт нынешнего плешивого диктатора.

**Владимир Пастухов, политолог:**

— Я редко размещаю не свои материалы у себя на странице, хотя исключения бывают. Но тут трудно удержаться. Есть красивая легенда про датского короля, который надел желтую звезду в знак солидарности с евреями. Но в жизни любого народа бывают такие моменты, когда нужно сказать или сделать что-то такое, чтобы всем стало понятно, кто тут королева, а кто — всего лишь желтая звезда...

Конечно, прокремлевские писаки могут уверять, что известный анекдот про Брежнева — мелкого политического деятеля" времен Аллы Пугачевой, не соответствует действительности. И с годами фигура Брежнева становится только мощнее и крепче (видимо, как коньяк), а Пугачева давно измельчала.

Но злятся они потому, что старый анекдот теперь уж точно можно пересказывать на новый лад, подставив вместо фамилии генсека-«бровеносца в потемках» текущего руководителя России, заплутавшегося и запутавшегося в поисках геополитического величия.

**Салідарнасць**

ЗНЕШНІ ГАНДАЛЬ

# ІМПАРТ, ЯКІ НЕ МЕНШ ВАЖНЫ ЗА ЭКСПАРТ

**Ці ўсё добра са знешнім гандлем? Што далей будзе. Знешні гандаль сёння, па сутнасці, выцягвае эканоміку краіны, не дазваляючы ёй канчаткова зваліцца ў бездань. Аднак адначасова ён жа з'яўляецца мінай запаволенага дзеяння. Чаму так — папулярна тлумачыць тэлеграм-канал «Нашы грошы».**

Знешні гандаль — гэта тое, што мы купляем і прадаём за мяжу. У ідэале важна вытрымліваць баланс гэтых складнікаў. Яшчэ лепш, калі мы прадаём больш, чым купляем. Менавіта такая сітуацыя цяпер і назіраецца ў Беларусі, на чым прапаганда і акцэнтуе ўвагу.

Нам кажуць: усё выдатна! Сальда знешняга гандлю станоўчае і дасягае рэкордных аб'ёмаў. На самой справе сутнасць таго, што адбываецца, заключаецца ў тым, што ў краіне падае экспарт (за 7 месяцаў гэтага года ён сышоў у мінус на 3,7%), але пры гэтым яшчэ больш падае імпарт (на 8,9%). Вось сальда і расце.

У дзяржаўных СМІ наўрад ці раскажуць, што падзенне імпарту, насамрэч, не меншая праблема для эканомікі. Таксама прапагандысты не захочуць раскласці знешні гандаль па складніках, таму што тады стане зразумела: кароль — голы. А мы раскладзём.

Тавары дзеляцца на «інвестыцыйныя», «прамежкавыя» і «спажывецкія». Паглядзім, што мы маем па выніках 7 месяцаў.




Спажывецкія тавары — усё тое, што купляюць, умоўна, у краме. Іх экспарт прырос на 14%, а імпарт упаў на 9%. У крамах становіцца ўсё менш еўрапейскіх тавараў. «Швейцарскі» шакалад, «італьянскія» макароны і «французскі» сыр, калі прыглядзецца, на самой справе зроблены ў Расіі ці Кітаі.

Што тычыцца экспарту, наша «малочка» і лядоўні сапраўды нядрэнна прадаюцца на расійскім рынку. Але не трэба цешыць сябе ілюзіямі: адбываецца гэта не з-за павышэння канкурэнтаздольнасці, а якраз наадварот — проста альтэрнатыва стала нашмат меншай.

Прамежкавыя тавары — гэта тое, што трэба вытворцы ў выглядзе сыравіны і камплектуючых. У гэтым сектары на 12% упаў экспарт і на 7% — імпарт. У нас усё менш сыравіны і камплектуючых, у выніку некаторыя зборачныя вытворчасці могуць пачаць працаваць з перабоямі або зусім спыніцца. Цяжка сказаць, з чаго зроблены нашы пральныя машыны, тыя ж лядоўні, трактары і тэлевізары. Калі для іх вытворчасці патрэбны толькі кітайскія камплектуючыя (што малаверагодна), можна спадзявацца, што пакуль яны сяк-так, але будуць у наяўнасці. Але калі гэта дэталі з ЕС або ЗША, узнікаюць вялікія праблемы.

Інвестыцыйныя тавары — станкі і абсталяванне. Тут экспарт расце на 17%, але гэта, хутчэй за ўсё, значыць, што некаторыя прылады расіяне цяпер вымушаны купляць у Беларусі. Пры гэтым мы бачым каласальнае падзенне імпарту — на 24%. Адпаведна, беларускія вытворчасці толькі за 7 месяцаў страцілі чвэрць магчымасцей мадэрнізацыі або пашырэння. Успомнім, што наша «малочка», дрэваапрацоўка і іншыя галіны, якія паказвалі рэальныя вынікі, дасягнулі іх за кошт сучаснага абсталявання з Еўропы. Якога больш не будзе.

У аснове беларускага экспарту ляжаць прамежкавыя тавары (каля 57%), яшчэ траціну займаюць спажывецкія тавары. На долю інвестыцыйных прыпадае каля 13%. У імпарце карціна падобная, толькі доля прамежкавых тавараў вышэйшая — 69%, у той час як долі інвестыцыйных (8%) і спажывецкіх (23%) некалькі ніжэйшыя. Відавочна, што менавіта высокая залежнасць ад імпартнай сыравіны і камплектуючых будзе галоўным галаўным болем беларускай прамысловасці. Складанасці з інвестыцыйным імпартам выявяцца некалькі пазней.

Вобразна можна сказаць, што за дзень сённяшні адказваюць спажывецкія тавары. За тое, што будзе адбывацца праз тыдзень ці месяц — прамежкавыя. А за тое, што здарыцца праз год — інвестыцыйныя.

І калі сёння яшчэ можна «намаляваць» пазітыўную карцінку, то ў сярэднетэрміновай, а тым больш доўгатэрміновай перспектыве ўсё выглядае сумна. Бо калі мы хочам заваліць Расію нашымі таварамі або камплектуючымі, іх элементарна трэба на чымсьці вырабляць.

А магчымасцей падтрымліваць магутнасці, як паказвае падзенне інвестыцыйнага імпарту, будзе ўсё менш.

**novychas.online**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stankevich62@gmail.com тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.09.2022 у 16.15**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.